колле. На жаль, ні пясчанак, ні суслікаў нават такія меры не бароняць ад зубоў ці кіпцюроў драпежнікаў, бо апошнія таксама не лыкам шытыя. Яны могуць гадзінамі праседзець побач з нарой якой-небудзь жывёліны, і, калі тая толькі высуне галаву, каб агледзецца, – тут жа трапіць у зубы драпежніка. Вось такое яно, жыццё ў дзікай прыродзе. Для нас, людзей, дзіўнае і прыгожае, для дзікіх жыхароў няпростае: адным трэба, каб выжыць, есці іншых, а тым неабходна пастаянна вастрыць вушкі з гэтай жа нагоды.

Жыццё пустыні ўначы выглядае чароўнай казкай. калі святло ліхтароў выхоплівае з цемры кавалак дзікіх мясцін, дзе ўвесь час з'яўляюцца розныя дзівосныя жыхары. Часцей за ўсе гэта тушканчыкі: вялікія і маленькія, з доўгімі хвосцікамі і вялікімі заднімі лапкамі, чым нагадваюць аўстралійскіх кенгуру. Яны смешна скачуць адзін за адным і не звяртаюць увагі на нашу машыну. Сустракаецца там адзін досыць вялікі тушканчык, у якога на канцы доўгага хвосціка ёсць пэндзлік. Цікава, што ён падзелены раўнютка на дзве паловы: адзін бок чорны, іншы – белы, хаця сам грызун цалкам шэры, а доўгімі вушкамі нагадвае шыншылу.

Але казка на гэтым не скончваецца. Вось удалечыні з'явілася вока-ліхтар. Яно здаецца вялізным, але пад'язджаем бліжэй, і гэта аказваецца невялічкая, з палец, яшчарка-гекон.

Разнастайныя палёўкі, хамячкі, землярыйкі, егіпецкія і еўрапейскія лелякі, што да апошняга шчыльна сядзяць на дарозе, а над імі – рой дробных насякомых... Усё гэта нагадвае сюжэт пакуль яшчэ не напісанай казкі.

Ноч – пара, безумоўна, багатая на разнастайную жыўнасць, але некаторых жывёл – напрыклад, джэйрана – прасцей убачыць днём. Джэйран – гэта газэль, нечым падобная да нашай казулі, хаця і буйнейшая за яе, з чорным загнутым угору хвастом-пэндзлікам. Нягледзячы на свае буйныя памеры і сумныя гісторыі знішчэння іншых газэляў (такіх як сайгакі) джэйраны тут адчуваюць сябе бяспечна і адносна свабодна. Справа ў насельніцтве, якое любіць прыроду, таму і паляванне ва Узбекістане зусім не распаўсюджана.

Хапае ў пустыні і драпежных звяроў. Часцей за ўсё тут можна ўбачыць чырвоную лісіцу. У выпадках мы сустракалі па 7-8, а то і па 10 лісянят. Уявіце сабе, як прыгожа выглядае, калі ўся гэтая грамада разам з бацькамі займаецца фізічнай падрыхтоўкай каля сваіх нор!

Акрамя знаёмай нам лісіцы, жыве тут яшчэ і стэпавая ліса, альбо корсак. Гэта начны звер, таму і ўбачыць яго досыць складана. Але мне пашчасціла аднойчы добра разгледзець яго і нават сфатаграфаваць. Асноўнае адрозненне ад чырвонай лісіцы – у кончыку хваста: у корсака ён чорны, а ў чырвонай лісы – белы.

Яшчэ адзін звер, якога мае сябры-французы ўвесь час называлі леапардам – гэта дзікі стэпавы кот. Па памерах ён з тую ж лісіцу, светла-рудой афарбоўкі, з тоўстым паласатым хвастом, які ён час ад часу закідвае слупікам угару.

А вось, напрыклад, сярэднеазіяцкая чарапаха. Цяжка паверыць, што жыве яна на паверхні зямлі ад сілы два месяцы. У сярэдзіне сакавіка, як прыгрэе сонца, чарапахі выпаўзаюць з глыбокіх нор і цэлымі днямі сілкуюцца маладой травой. У гэтыя дні цікава назіраць за імі ў падзорную трубу. Чарапахі, зусім як нашы кароўкі, пасуцца на зялёнай палянцы і ўвесь час ядуць-ядуць-ядуць, амаль не спыняючыся. Па начах чарапахі зноў зашываюцца ў норы. Часта можна ўбачыць вялізную чарапаху, за якой плятуцца дзве-тры-чатыры маленькія чарапашкі. Гэта не дзеці, як могуць падумаць некаторыя. Чарапахі адкладваюць яйкі ў пясок, і на гэтым іх бацькоўскія клопаты заканчваюцца. Малыя чарапашкі – гэта самцы. Яны заўсёды меншыя за самак і бегаюць за імі з самымі інтымнымі мэтамі. Зразумела, што між самцамі часта ўзнікаюць сваркі. Пераможцамі лічацца тыя, хто змог перавярнуць



**Юрта. Будынак без адзінага цвіка – цёплы, утульны і экзатычны**



**Джэк – прыгажун пяскоў**



**Белахвостая пігаліца – мясцовая сваячка кнігаўкі**



**Пад сядлом яны ішакі, а на волі – вясёлыя oслікі**



**Без яркіх яшчарак-агам пустыня не была б такой цікавай**



**Мноства грызуноў вядзе да росту колькасці драпежнікаў**



**Наш сусед суслік**

суперніка на спіну. З такога палажэння вельмі складана зноў устаць на ногі. Гэтыя чарапахі часта робяцца ахвярамі драпежных птушак, якія ўздымаюць іх высока-высока, а потым разбіваюць аб скалы.

...А праз два месяцы пякучае сонца знішчае ўсю жывую расліннасць на зямлі, і чарапахам тут рабіць больш няма чаго, яны зноў зарываюцца ў зямлю да наступнай вясны...

Куды ж у пустыні без яшчарак?! Гэтыя мітуслівыя хуткія істоты не любяць, калі за імі назіраюць, і імкнуцца хутчэй знікнуць прэч з вачэй. Самая распаўсюджаная з іх – гэта стэпавая агама. Дастаткова буйная, з акруглай галавой – яе лёгка адрозніць ад іншых відаў яшчарак. Самцы агамы маюць сінюю афарбоўку грудкі і горла – такое своеасаблівае шлюбнае ўбранства. І чым старэйшы самец, тым больш яркая гэтая афарбоўка. Каб паказаць самкам усю сваю прыгажосьць, самцы часта ўзбіраюцца на высокія сухія галінкі і свецяцца адтуль, быццам блакітныя ліхтарыкі, пакуль імі не зацікавіцца самка. Цікава паназіраць і за іх шлюбнымі гульнямі, калі самец то апускаецца, то ўздымаецца на пярэдніх лапках, паказваючы сваю сінюю грудку. Увесь гэты працэс нагадвае звыклае нам па ўроках фізкультуры адцісканне.

Яшчэ адна дзівосная яшчарка гэтай пустыні – шэры варан. Гэта найбуйнейшая яшчарка ўсяго былога Савецкага Саюза. Глядзіш на яе і думаеш: ці то яна паходзіць ад драконаў, ці то казачныя цмокі паходзяць ад яе. Доўгі масіўны хвост, кіпцюры на лапках амаль нічым не адрозніваюцца ад арліных, вялікая змяіная галава, доўгі раздвоены на канцы язык – здаецца, што перад табой не яшчарка, а сапраўдны яшчарцмок. Больш таго, калі ты яму не спадабаешся (а не падабаюцца яму амаль усе), цмок пачынае шыпець і надувацца, як паветраны шар, робячыся ў два разы большым, і страшна высоўвае свой доўгі язык. А галоўнае – хвост. Варан, карыстаючыся хвастом як бізуном, забівае сваю здабычу. Удар хвастом настолькі моцны, хуткі і пякучы, што не пашанцуе не толькі зайчыку, але і буйной жывёліне.

Пустыня! Колькі цудаў захоўвае гэтая зусім голая зямля. Хіба не цуд убачыць на зусім голым яшчэ ўчора месцы купінку чырвоных цюльпанаў? А яшчэ праз месяц гэтае месца зноў пачырванее – ужо ад макаў. Квітней, пустыня, квітней! Хай увесь час гучыць звонкая песня неўтаймоўных жаўрукоў над тваімі прасторамі!

А жаўрукоў тут, вядома, шмат. Гэта і стэпавыя, і двухплямістыя, і шэрыя, і малыя, а калі пашанцуе, то можна ўбачыць нават чорных і белакрылых жаўрукоў. Птушынае багацце, вядома ж, не абмяжоўваецца жаўрукамі. Чародкі чорнабрухіх рабкоў сваім фырканнем дадаюць адмысловыя ноты ў тутэйшую музыку. Глабальна знікаючыя крэчаткі, чароды стэпавых жураваў, белахвостыя пігаліцы, розныя грычуны, але, безумоўна, галоўная птушка гэтых мясцін – джэк, альбо па-руску, – «дрофа-красотка».

Джэк нечым нагадвае хатняга індыка. Такіх жа памераў, стракатай пясчана-чорнай афарбоўкі, з доўгай шыяй і моцнымі нагамі. Джэкі рэдка ўзлятаюць, звычайна толькі каб уцячы ад ворагаў. Самцы гэтых птушак вельмі прыгожыя, а яшчэ прыгажэйшыя іх танцы. Каб спадабацца самачцы, самцы прылятаюць з выраю раней за іх, займаюць лепшыя на іх погляд узгоркі, з якіх можна будзе ва ўсёй прыгажосці паказаць свае маладзецкія здольнасці. А здольнасці гэтыя ў джэкаў, як і ў многіх іншых птушак, выяўляюцца ў танцах. Самцы ўздымаюць сваё белае грудное пер'е ўгару, робячыся вялікімі пухнатымі шарамі, і бегаюць на сваім бугры па крузе. З першага погляду нават і не скажаш, што гэта птушка, калі не ведаеш яе паводзін. І так кожныя раніцу і вечар самцы танцуюць, пакуль не даб'юцца сэрца самкі.

Але, нягледзячы на ўсё гэтае хараство і незвычайнасць, думкі часта прыводзяць мяне на радзіму. Упэўнены, што беларуская зямля не менш унікальная і прыгожая, чым пустыня Кызылкум, для людзей, якія тут жывуць. За тры месяцы сто разоў засумуеш па беларускіх лясах і балотах, калі зазначыш, што не ўбачыш беларускай вясны, поўнай свежых зялёных фарбаў і першакветаў. Упэўнены, пра гэта я яшчэ напішу сваю лепшую кнігу.



# Моя очередная «первая любовь»

Дмитрий Якубович | Фото автора

У природы нет плохой погоды, равно как и поры года. Для меня давно уже не важно, что творится за окном: кружит красавица метель, беспощадно жжет июльское солнце, облетает в ноябрьском тумане последняя листва, или же кругом бурлят ручьи и отовсюду льются трели жаворонков. В каждом дне года есть своя изюминка и неподражаемая прелесть. Но все же май – месяц наибольших надежд. Уже третий год подряд мне удается вырваться в отпуск именно в это время и уехать подальше от шумного города в тихую деревушку на берегу любимого Немана.

И вот я на месте. Птицы всюду. На краю леса мельтешат коньки, зарянки, славки и пеночки, на реке можно поснимать водоплавающих и куликов, на лугах – жаворонков, чеканов и других птиц... Но время не стоит на месте. Отпуск скоротечен, и необходимо скорее определиться с местом и моделями. Последних, конечно, в достатке. Но душа требует чего-то особенного, не определенного, для себя еще не изведанного. И вот так ходил я от рассвета до заката в поисках скрытого смысла, пока не вышел на его след...

## «Кукуя целыми часами, все вкусно даже с волосами»

В один из дней, спрятавшись за куст, я наблюдал за луговыми чеканами. Неожиданно вблизи, над самой землей, мелькнул силуэт птицы, похожей на сокола. Конечно же, я узнал в этой птице кукушку. Нынешней весной их было довольно много, о чем свидетельствовало многоголосое «ку-ку», доносящееся со всех сторон. Вот, долетев до ближайших зарослей сосенок, «моя» птица уселась на одно из деревьев. Скрываясь за небольшими пригорочками и высокой прошлогодней травой, я смог подкрасться к кукушке метров на 20 и сделать несколько кадров. Снимки, конечно, получились далекими от идеала, но сам объект, впечатленный на них, влюбил в себя с первого взгляда.

Все остальные пернатые отошли на задний план, и я решил всерьез взяться за птиц, о которых не знал почти ничего. Сначала это казалось невыполнимой задачей: кукушки держались в кронах высоких деревьев и кустарников и постоянно перелетали с места на место. Однако ежедневные утренние наблюдения за поведением кукующих пернатых все же привели меня к их тайному месту: не замеченной ранее большой поляне, окруженной с одной стороны рекой, а с других – деревьями. В центре поляны была пара сухих кустов. Именно здесь мне несколько раз удалось заметить сидящую невысоко над землей кукушку. Застыв на сухой ветке на несколько минут, птица вдруг резко срывалась вниз и, схватив что-то с земли, возвращалась обратно. Шикарное место! Низкие присады позволят фотографировать птиц с земли практически на уровне глаз, на заднем плане будут темные деревья с молодой листвой, а





река с восточной стороны откроет путь для утренних лучиков солнца. Нечего думать, строю шалаш здесь!

И вот он, долгожданный рассвет первого дня съемки. Приятно щекочут лицо травинки, торчащие из стен моего тесного укрытия. Будоражит запах черемухи и майский «грохот» птичьей полифонии. Но сейчас меня интересует лишь одно. То, что не выходит из головы уже несколько дней. То, что накануне я видел в бинокль. А все, что я могу теперь сделать для осуществления желаемого, это лишь скрасить напряженное ожидание воспоминаниями и надеждами. Вот только почему меня так трясет? Совсем ведь не холодно! Не стоит так тревожиться, ведь все так прекрасно: май, отличная погода, впереди весь отпуск – расслабься и просто наслаждайся происходящим... Так ведь нет! Не освободиться от тех чар, которые наложила на тебя страсть. Все мысли и мечты сейчас едины – хоть на секундочку... хоть один кадр... Время тянется бесконечно долго. А кукушки все нет.

И вдруг, в очередной раз взглянув сквозь отверстие в скрадке на ветку, замечаешь на ней ту желанную, о которой мечтал уже, кажется, всегда. Совершенно не зная, чего ждать от птицы, ты просто боишься пошевелиться. Вот она, всего в нескольких метрах от тебя. Кажется, что кукушка не сводит с тебя своих настороженных оранжевых глаз и вот-вот улетит.

Нервы на пределе. Подсознание орет: «Давай!» И вот я набираюсь смелости, очень медленно ловлю объект в видоискатель и делаю кадр. Второй. На одиночный хлопок зеркала кукушка не реагирует – значит, можно пробовать серию. Птица настораживается. Делаю короткую паузу и очень бегло просматриваю полученные фотографии. Сплошное «мыло»! Естественно! От волнения так трясутся руки, что не помогает и штатив, а выдержка еще очень длинная, ведь солнышко едва оторвалось от горизонта. Но тут кукушка «падает» на землю и взлетает обратно с гусеницей в клюве.

Ну вот и отлично: птица ни о чем не подозревает. Это бы-



стро успокаивает, и ты просто начинаешь снимать. А в последующие дни все еще больше упрощается.

И только потом ты понимаешь, что тот «первый страх» испугать птицу – вовсе не страх, а самый пик экстаза фотоохоты, и то, что раньше казалось непреодолимой сложностью, теперь уже вспоминается как самое счастливое время ушедшей весны.

## «Куковать нельзя в дуэт – накукуем много лет!»

После прилета каждый самец кукушки занимает свой участок, активно вокализирует и яростно изгоняет конкурентов, случайно залетевших к нему «в гости». В таких случаях хозяин всегда прав и всегда сильнее. А что же происходит на границе таких территорий? Два самца могут куковать на расстоянии 100 метров друг от друга часами. Но вот когда одному из них надоедает однообразие, а весенние чувства вскипают внутри, он направляется в сторону соседа. Садится на открытом месте и начинает еще активнее подавать голос. Соседняя птица замолкает, затем взлетает и садится рядом.

Если в это время находиться вблизи, то можно услышать столь странные звуки, что никогда бы не сказал, какая птица их издает. Свист, визг, бульканье – что угодно, но не привычное «ку-ку». Возбужденные кукушки не узнаваемы не только по голосу, но и по поведению. Провоцировавшая птица не двигается, будто чувствует себя виноватой, а вот прилетевшая ведет себя в роли хозяина. Перелетает ближе и ближе и, наконец, бросается с громким верещанием на «врага». Последний в это же мгновение слетает с ветки и поспешно удаляется, гонимый соседом, в сторону своего «царства». Вторая кукушка стремительно возвращается назад, и опять продолжается громкая монотонная перекличка враждующих сторон. Казалось бы, что в этом особенного? Банальное нарушение территории. Но спустя некоторое время все повторяется вновь, с точностью до наоборот. На то же дерево уже прилетает якобы хозяин. Но вдруг эта птица теряет уверенность, при появлении другого самца застенчиво застывает на ветке, а вскоре также улепетывает «к себе» от яростных криков и раскрытого клюва разгневанного соседа. И так за утро несколько раз: кто первый – тот и гость!

А вот однажды птицы слетелись к границе как-то постепенно, дерзкого однозначного вторжения, как в прошлые разы, не произошло. Долго перекрикивая друг друга, кукушки одновременно подлетели к рубежу своих «королевств». Кто хозяин, кто гость? Тут уже пришлось выяснять этот вопрос силой. С широко раскрытыми клювами они кинулись друг на друга и сцепились в воздухе.

Полетели перья, с задеваемых крыльями сухих веток ольхи посыпались шишечки. Движения дерущихся птиц были настолько быстрыми и резкими, что разобрать что-либо в этой кутерьме было невозможно.

Однако кукушки быстро расцепились, немного погонялись друг за другом и разлетелись опять, каждая в свою сторону, чтобы где-то, сидя на дереве, громко заявлять о своем превосходстве.

Я же, уже оправившись от эйфории первого дня съемки, уверенной рукой нажимал и нажимал кнопку фотоаппарата…

# Арніталагічныя калекцыі Канстанціна Тызенгаўза



доктар Юзаф Зямчонак (Варшава)



Герб Тызенгаўзаў «Буйвал»

Сёлета мы адзначаем юбілей – 225 год з нараджэння Канстанціна Тызенгаўза, славутага даследчыка фаўны XIX ст., стваральніка ў нашай краіне новай галіны сярод навук аб прыродзе – арніталогіі, а таксама заснавальніка музеяў натуральнай гісторыі. Меў ён таксама славу і шчодрага фундатара-мецэната, і руплівага магната-гаспадарніка. Першы на беларуска-літоўска-польскім сумежжы культур вучоны-арнітолаг быў прадстаўніком старажытнага рыцарскага роду фон Тызенгаўзенаў, які паходзіў з Гальштыніі (славянскага анклаву ў паўночнай Германіі), а менавіта са сталіцы даўняга Ганзейскага Звязу, Горада Сямі Вежаў – славутай Любекі. Продкі навукоўца былі рыцарамі-крыжакамі; Энгельбрэхт і Тэадорык Тызенгаўзены між іншым закладалі ў XII ст. на Балтыйскім узбярэжжы колішняга мора Вікінгаў горад Рыгу.

Канстанцін Тызенгаўз (1786-1853) – граф герба «Bawół» (Буйвал), на якім адлюстравана выява магутнага быка – ці то зубра, найбуйнейшай жывёліны кантынентальнай Еўропы, ці то тура – жывёлы, вымершай некалькі сот гадоў таму назад. Тызенгаўз быў волатам у сваіх дасягненнях, сапраўдным чалавекам Рэнесансу – усебакова адораным геніем, як сцвярджаў яго першы біёграф, сучаснік і калега прафесар А. Адамовіч. Малады магнат быў выпускніком Віленскага ўніверсітэта – адной з найлепшых і найбуйнейшых еўрапейскіх навучальных устаноў таго часу. Па дадзеных французскага даследчыка Даніэля Беавуа, у 1830 г. віленская alma mater мела 1300 студэнтаў а, напрыклад, Оксфардскі ўніверсітэт – усяго 400.



Партрэт Канстанціна Тызенгаўза з гравюры Грэнье

Сярод сямейных рэзідэнцый – Альт Ласэн (цяпер Ласміжа ў Латвіі), Ракішкі (цяпер Рокішкіс) у Літве, Камаі і Жалудок (цяпер аднайменныя паселішчы ў Беларусі) – граф аддаў перавагу радавому пастаўскаму маёнтку, які раскінуўся на ўзбярэжжах трох азёр і ракі Мядзелкі. Пасяліўшыся там у 1814 годзе, былы палкоўнік войскаў Вялікага княства Літоўскага ў складзе армій Напалеона Тызенгаўз самааддана заняўся фаўністыкай, найбольшую ўвагу прысвячаючы птушкам. Менавіта тут, у сваім раскошным палацы, дабудаваным ім у стылі класіцызму, ён захоўваў унікальныя заалагічныя зборы, якія налічвалі каля 3000 асобнікаў. Паступова калекцыяператварылася са сціплага збору мясцовых відаў у рабочым кабінеце даследчыка ў адзін з найбуйнейшых музеяў у Еўропе, які прадстаўляў птушак з усіх кантынентаў і большасці краін свету. Менавіта багатыя ўласныя зборы дапамаглі Канстанціну Тызенгаўзу ў напісанні кніг: спачатку ў 1841 г. выйшлі «Асновы арніталогіі, навукі аб птушках», а потым, у 1843-46 гг. трохтомная «Агульная арніталогія, альбо апісанне птушак усіх частак свету».

Тут жа, у Паставах, знаходзілася і вялізная бібліятэка, дзе, па сведчанні А. Вагі, меліся «скарбы, якіх ніколі не было ў Польшчы»: працы Буфона; твор Адзюбона з выявамі амерыканскіх птушак, які тады быў нетанны, а цяпер з'яўляецца самай дарагой кнігай у свеце; выдатныя манаграфіі Гоўлда; вялікія і каштоўныя альбомы англійскіх, французскіх і нямецкіх арнітолагаў – выданні, даступныя толькі вельмі багатым людзям. Калекцыя кніг не саступала бібліятэкам буйных гарадоў. А ўласна пастаўскае мястэчка над Мядзелкай, дзе адбываліся шматлікія навуковыя канферэнцыі, аспрэчвала першынство з Вільняй у вывучэнні прыроды федэратыўнай рэспублікі Вялікага Княства і Польскага Каралеўства – Рэчы Паспалітай. Сябар Канстанціна Тызенгаўза Антоні Вага сцвярджаў: *«Што ў іншых краях прафесары навучальных устаноў, прызваныя ўрадам на свае кафедры, стварылі доўгай і мазольнай працай, тое апантаны грамадзянін у ваколіцах, далёкіх ад сталічных гарадоў, аддадзены вясковай гаспадарцы, талентам і добрай воляй адораны, стварыў у адну хвіліну. Вось ужо карысць з любячых навуку!»*

К. Тызенгаўз выказваўся, што прырода так справядліва падзяліла свае дары, што і тутэйшыя ваколіцы маюць чым



**Пастаўскі палац, дзе захоўваліся калекцыі Тызенгауза. Фота Дзмітрыя Вінчэўскага**



**Птушка-насарог**



**Калекцыя райскіх птушак**

**Некаторыя экспанаты з калекцыі К.Тызенгаўза. Цяпер – у заалагічным музеі Віленскага ўніверсітэта. Фота Юзафа Зямчонка**

ганарыцца і зачароўваць. *«Хіба наш сіваграк ў пагодны дзень, пералятаючы ад дрэва да дрэва, прамільгнуўшы лазуракам, не з'яўляецца каУанай? [Кауана – птушка з Паўднёвай Амерыкі, ярка-салатаватага або лазурнага апярэння]. Нашы дзятлы не саступяць папугаям, аб качках я і не кажу, бо ведаю мясцовую разнастайнасць, якая пераўзыходзіць амерыканскую або кітайскую. Адзін з рэдкіх відаў – зімародак – пралятаючы над водамі, стварае ўражанне не меншае, чым самая маляўнічая замежная птушка. А спявун гаёў, любімы салавей, нічога падобнага якому не маюць краі, спешчаныя сонцам, не выклікае замілаванне? Здаецца мне, што нават пасля смерці самым мілым майму праху быў бы адпачынак у ваколіцы, дзе кожную вясну разносіўся б яго голас».*

Пастаўскі заалагічны музей пасля смерці стваральніка ў 1856 г. быў перададзены праз яго сына Райнольда Тызенгаўза Віленскай археаграфічнай камісіі. Ён утрымліваў 1828 арніталагічных экспанатаў, у тым ліку 1203 пудзілы птушак і 625 птушыных яек. Па дадзеных гісторыка Адама Кіркора, ў 1859 г. гэта калекцыя налічвала 1093 экспанаты птушак і 563 яйкі 252 відаў.

А. Кіркор у 1859 г. у «Вандроўках па Вільні і яе ваколіцах» апісаў арніталагічную калекцыю К. Тызенгаўза, перавезеную з Пастаў. *«...Это всё сегодня является общественной собственностью. Не можем вдоволь нарадоваться созерцанием молодёжи – учеников гимназий и института, а часто и студентов университета, приезжающих с книжками и ходящими около шкафов кабинета или объясняющих непосвященным значение длинных ног либо искривленного клюва птиц. Кто не слышал о райских птицах? Здесь можно увидеть большую райскую птицу родом из Новой Гвинеи, это о ней сложено больше всего сказок; красную райскую птицу. Описать красоту их невозможно: как не сумел запечатлеть прелести Елены Прекрасной в своей «Илиаде» Гомер, описывавший, как 10 лет воевали из-за нее греки с троянцами!»* – у захапленні пісаў аўтар.

У нашы дні рэшткі былога Пастаўскага заалагічнага музея знаходзяцца ў Вільні і Ракішках і ўтрымліваюць 770 экспанатаў. Каля 300 з іх размешчаны ў заалагічным музеі Віленскага ўніверсітэта. У Беларусі калекцыя лічылася страчанай назаўсёды і ўспрымалася як нешта кніжна-манументальнае. З заміраннем сэрца я разглядаў у свой час дзівосных птушак з усяго свету, сабраных знакамітым навукоўцам і адфатаграфаваў там каляровую фотастужку. Райскія птушкі і венцаносны голуб з Новай Гвінеі, какаду з Аўстраліі і жоўтачубны папугай; птушка-насарог з Афрыкі, і некалькі відаў калібры, (50 экзэмпляраў, іх калекцыя была самай вялікай у Савецкім Саюзе), залаты фазан, аргус, вандроўны альбатрос, белая сава, птушка-сакратар і многія іншыя айчынныя і экзатычныя птушкі радавалі вока. Па словах цяперашняга дырэктара музея Віленскага ўніверсітэта Грыты Скуене, калекцыя яек знаходзіцца ў Дарвінаўскім музеі Масквы. Там, верагодна, захоўваецца і частка іншых збораў.

Прафесар С.Гурскі назваў у гонар вялікага навукоўца род мух, які ўтрымлівае ўсяго адзін від - *Tyzenhausia vespiformis* і два віды водных раслін: *Chara tyzenhausii* (хара ніцепадобная) і *Potamogeton tyzenhauzii* (рдэст Тызенгаўза)

Спадчынай нашага славутага земляка Канстанціна Тызенгаўза ўсё часцей і глыбей пачынаюць цікавіцца не толькі даследчыкі прыроды, але і шырокія колы прыхільнікаў беларускай культуры.

Як адзін з доказаў гэтаму – апошнія навіны з Пастаў, дзе ўжо ў гэтым годзе можа распачацца рэстаўрацыя былога палаца Тызенгаўзаў, у якім цяпер знаходзіцца адзін з карпусоў раённай бальніцы.



**Помнік навукоўцу ля сцен Пастаўскага палаца. Фота Дзмітрыя Вінчэўскага**

# Птицы Полесского радиационного заповедника



Валерий Юрко | научный сотрудник Полесского государственного радиационно-экологического заповедника

Фото автора

Песчаные дюны около бывшей деревни Красноселье

В Беларуси, пожалуй, не найдется человека, который бы не знал о произошедшей катастрофе на Чернобыльской атомной электростанции в 1986 году. Из-за выброса большого количества радиоактивных изотопов и загрязнения ими окрестностей, 30-километровая территория вокруг ЧАЭС превратилась в зону отселения и отчуждения для людей – здесь нельзя находиться длительное время. Однако не все знают, что на этой территории в 1988 году в Беларуси был создан Полесский государственный радиационно-экологический заповедник (ПГРЭЗ). Его площадь составляет 2162 км$^2$, а периметр – около 300 км. Статус заповедника указывает на высшую форму охраны природы, здесь запрещается всякая хозяйственная деятельность и хозяйкой является лишь Природа.

Территория заповедника равнинная, сильно заболочена. Основной водной артерией служит река Припять, пересекающая заповедник с северо-запада на юго-восток. Долина реки общей протяженностью около 100 км широкая, ширина поймы на различных участках достигает 9 км. Русло реки сильноизвилистое, образует много рукавов и озер. Важнейшими притоками Припяти в заповеднике являются реки Словечна, Брагинка, Вить, Желонь, Несвич. Больших и малых старичных озер насчитывается более 300. Крупнейшие из них – Вьюры, Гнездное, Купальница, Немецкое, Персток Староселье, Смолище, Семенница и другие. Только некоторые из озер имеют глубину до 10 м, абсолютное же большинство мелководно, и летом, в межень, пересыхают. Низинные болота занимают площадь 84 км$^2$. Верховые болота невелики по площади.

Долина реки Припять окаймлена песчаными грядами и дюнами высотой до 20 м и протяженностью до 1 км. Песчаная поверхность дюн в отдельных местах напоминает среднеазиатскую пустыню. Эти голые пески увеличивают ландшафтное разнообразие, повышая тем самым разнообразие флоры и фауны. Из птиц в таких биотопах любит селиться теперь уже редкая в Беларуси птица – полевой конек.



BirdLife IBA ТЭРЫТОРЫЯ ВАЖНАЯ ДЛЯ ПТУШАК

Большая часть территории заповедника покрыта лесами (1104 км$^2$). В целом преобладают сосняки, но есть и черноольховые леса, березняки, осинники и дубравы. Северо-восточная сторона ПГРЭЗ представлена, в основном, заброшенными полями и деградирующими польдерами (участками поймы, отгороженными от реки).

На территории ПГРЭЗ отмечено 214 видов птиц, из которых гнездятся 172, что составляет более 75 % от гнездящихся птиц Беларуси.

Такие лесные виды как канюк, вяхирь, вальдшнеп, кукушка, серая неясыть, козодой, вертишейка, три вида пестрых дятлов (большой, средний и малый) на территории заповедника обычны. Пустующие деревни стали «местом прописки» для филина, серой неясыти, удода, черного и певчего дроздов и других птиц. Филин гнездится, как правило, на чердаках, спасаясь тем самым от хищных зверей и кабанов. Серая неясыть облюбовала дымоходы, куда не может добраться куница. Удоды в оставленных деревнях гнездятся в разного рода пустотах, а дрозды внутри помещений устраивают свои гнезда на балках, в нишах и других местах.

Из водно-болотных птиц многочисленны в заповеднике кряква, чирок-трескунок, погоныш, камышница, чибис, бекас, белокрылая крачка, дроздовидная камышевка и другие виды. В свое время с целью предотвращения поступления радиоактивных изотопов в Припять, многие мелиоративные каналы были перекрыты, что привело к заболачиванию значительных площадей. Это способствовало увеличению численности водоплавающих птиц и появлению на гнездовании новых видов. Стала обычной здесь большая белая цапля, совсем недавно появилась одна из красивейших цапель – кваква. Пока только на территории затоплений и в непосредственной близости от них обитает лебедь-кликун, исконно лесотундровый вид. Эти птицы начали гнездиться в Беларуси в начале нынешнего столетия и, по-видимому, основная часть белорусской популяции сосредоточена именно здесь. Поздней осенью 2007 года, перед отлетом на Брагинском участке заповедника скопилось около 60 кликунов! Лебедь-шипун встречается в заповеднике только на пролете. Казалось бы, для его обитания здесь достаточно пригодных водоемов, однако, по-видимому, он не выдерживает конкуренции с более агрессивным собратом.

Еще обычны здесь перепел, коростель, полевой жаворонок, береговая ласточка и другие. А вот серая куропатка с прекращением хозяйственной деятельности резко сократила численность. И держится, в основном, у северных границ заповедника, где налажено сельскохозяйственное производство. С уходом людей покинули эту территорию белый аист, галка, грач, домовый воро-



**Черный аист *(Ciconia nigra)***



**Филин *(Bubo bubo)***



**Хохлатый жаворонок (*Galerida cristata)***



**Молодой орлан-белохвост *(Haliaeetus albicilla)***



**Лебеди-кликуны *(Cygnus cygnus)* (взрослый и два молодых)**



**Самец обыкновенной пустельги *(Falco tinnunculus)***

бей. Их можно встретить лишь в приграничных населенных пунктах. Деревенская ласточка, горихвостка-чернушка и каменка еще довольно обычны, так как им для гнездования нужны различного рода постройки. Однако в связи с разрушением домов и зарастанием дворовых участков их численность постепенно сокращается. Пытается остаться в пойме р. Припять и белый аист, но из-за хищничества орлана-белохвоста, который здесь обычен, аистам это пока не удается.

ПГРЭЗ имеет исключительно важное значение для птиц, которые мигрируют через этот регион, особенно для водно-болотных видов. Поэтому на территории заповедника была образована Территория важная для птиц (ТВП) международного значения «Нижняя Припять». Мигранты иногда задерживаются здесь на две-три недели. Весной 2006 года численность белолобых гусей за 6 дней наблюдений составила 7–10 тысяч. В середине апреля приходилось видеть, как на зарастающих польдерах южнее б. н. п. Бабчин скаплиs\вались на ночевку 1,5–2 тысячи серых гусей.

На Погонянском затоплении за четыре часа учетов пролетело 2,5–3 тыс. особей связи и около 1,5 тысяч уток других видов. На р. Припять в начале мая в западном направлении можно наблюдать за день 2–5 тысяч белокрылых крачек, около 1000 черных крачек. На участке поймы от б. н. п. Оревичи до б. н. п. Ломачи (26 км) отдыхали и кормились 3000 турухтанов. В тростниках и околоводных кустарниках в начале мая скапливаются десятки, а иногда и сотни тысяч особей камышевок и овсянок.

В ПГРЭЗ отмечено 58 видов птиц, занесенных в Красную книгу Республики Беларусь. Среди них: белоглазая чернеть, большой подорлик, беркут, кобчик, авдотка, сизоворонка. В заповеднике (как нигде в Беларуси, а возможно, и в Европе) высока плотность гнездования орлана-белохвоста. Здесь гнездится 10–15 пар, а общая численность вида достигает 100 особей. Средняя величина выводка у орланов ПГРЭЗ за 2007-2008 гг. составила 1,7 птенца (по 7 гнездам). Отсюда молодые орланы расселяются на другие пригодные для их обитания территории. Уместно отметить, что высокая численность и успех размножения орланов-белохвостов связаны с хорошей кормовой базой, особенно в зимний период. Зимой волки, в основном, питаются мясом убитых ими копытных. Часть добычи волков достается и орланам.

Численность большого подорлика оценивается в 3–5 гнездящихся пар. Коростель в заповеднике обычный, в отдельные годы многочисленный гнездящийся вид. По годам его плотность колеблется от 5,3 до 15,8 пары/км2. Старые и молодые беркуты встречаются в заповеднике зимой и в ранневесенний период. Здесь обычны большая белая цапля (15–20 гнездящихся пар), большая выпь (более 50 пар), черный аист (20–30 пар), малый подорлик (более 20 пар), малый погоныш (более 100 пар), серый журавль (30–50 пар), гнездится более 50 пар малой и белощекой крачек, золотистой щурки и обыкновенного зимородка, более 100 пар мухоловки-белошейки и садовой овсянки. Только за последние пять лет в заповеднике стали гнездиться и бородатая неясыть, и куликмородунка, и усатая синица, и другие редкие виды птиц.

Оценивая восстановление природных экосистем в заповеднике за последние 25 лет с момента аварии, даже без глубокого анализа приходишь к выводу: если не вмешиваться в природные процессы, с любой напастью природа справится сама. Чем не повод для размышлений, чем не урок для других особо охраняемых природных территорий, расположенных в незагрязненных радионуклидами местах?!

Усатых синиц, благодаря их доверчивости, несложно снимать с подхода. Но результат практически всегда оставляет желать лучшего: то свет не тот, то тростинка помешала... Да и в присутствии человека птицы ведут себя не совсем естественно. Вот я и решил, что командовать парадом должен я! Поэтому большую часть времени я посвятил не скрадыванию пернатых по тростникам, а именно выбору места для съёмки. Чтобы свет, фон и расположение птицы в кадре было не случайным, а таким, каким я его хотел видеть.

**Уладар трысняговых нетраў (Другое месца ў фотаконкурсе «Птушка ў аб'ектыве – 2010») Вусатая сініца *Panurus biarmicus*. Фота Дзмітрыя Якубовіча**

Этот кадр – одна из воплощённых идей. Давно задумала я подловить момент драки между серыми цаплями. С тех пор и охотилась именно на него. Однако то свет не тот был, то птицы не стремились повернуться под нужным для фотографа углом, да и сами драки не столь часты. Обнаружив место, куда поутру частенько прилетали на рыбалку серые цапли, более месяца ежедневно ожидала я задуманный сюжет. Однажды все необходимые условия совпали, и повздорившие из-за рыбы птицы попали в кадр.

**Сварка (Трэцяе месца ў фотаконкурсе «Птушка ў аб'ектыве – 2010») Шэрыя чаплі *Ardea cinerea*. Фота Таццяны Раманавай**

# Птушкі на беларускіх манетах

Нацыянальная кампанія «Птушка года», якую АПБ праводзіць пачынаючы з пачатку тысячагоддзя, была ўвекавечана не толькі ў марках, з якімі мы знаёміліся ў мінулы раз, але і ў памятных манетах, выпушчаных Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь. Дзякуючы намаганням і кансультацыйнай падтрымцы спецыялістаў АПБ у свет выйшлі манеты, прысвечаныя птушкам 2007–2010 гг., а менавіта: салаўю, вялікай белай чаплі, шэрай гусі і сокалу-пустальзе.

Птушкі знайшлі адлюстраванне і ў серыі памятных манет, прысвечаных нацыянальным паркам Беларусі. Былі выпушчаны манеты з выявамі лебедзя-шыпуна як сімвала нацыянальнага парка «Нарачанскі», чайкі-клыгуна і шэрага жорава, сімвалізуючых адпаведна нацыянальныя паркі «Браслаўскія азёры» і «Прыпяцкі».

І нарэшце, у серыі «Ахова навакольнага асяроддзя» выйшлі манеты з выявамі пугача, двух пугачоў, белага бусла і сокала-падарожніка.

Трэба адзначыць, што ўсе гэтыя манеты рознай вартасці, адчаканеныя з медна-нікелевага сплаву, срэбра і золата невялікімі тыражамі, імгненна разышліся па калекцыях і зараз з'яўляюцца рарытэтамі.

## Птушка года




## Нацыянальныя паркі




## Ахова асяроддзя

